 

ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Год выдання 38-ы
№ 32 (2392)
22 красавіка 1969 г
АЎТОРАК
Цана 4 кап.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

## СЁННЯ — ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ У. І. ЛЕНІНА



## У ЛІКУ ФІЛЬМАЎ-ПЕРАМОЖЦАЎ

Закончыўся Усесаюзны фестываль тэлевізійных фільмаў, які адбываўся ў Ленінградзе. Як вядома, на гэтым творчым аглядзе тэлемастацтва Беларусь паказала чатыры тэлефільмы. Два з іх ўдастоены ўзнагароды.

За яркае, праўдзівае адлюстраванне гераізму савецкага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны фільму «Агонь» з серыі «Біяграфія маёй рэспублікі» (сцэнарый А. Вялюгіна, рэжысёр-аператар І. Вейняровіч, аператар А. Навіцкі) прысуджаны прыз, дыплом фестывалю і грашовая прэмія.

Мастацкі тэлевізійны фільм «Кражонак» (сцэнарый Ул. Караткевіча, рэжысёр М. Калінін, аператар М. Юрэвіч) удастоены дыплома фестывалю за паэтычнае вырашэнне тэмы працы і добрую рэжысёрскую работу з дзецьмі. Акрамя таго, дыпломам і падарункам ленінградскай піянерскай газеты «Ленинские искры» ўзнагароджаны вучань мінскай школы Віталій Кашолкін за выкананне ролі Кражонка ў гэтым фільме.

## ДРУЖБА, ЯКОЙ МАЦНЕЦЬ

Дзяржаўны Рускі драматычны тэатр БССР імя Горкага заключыў дагавор сацыялістычнай садружнасці з Мінскім камвольным камбінатам. Рабочыя, інжынерна-тэхнічныя работнікі прадпрыемства абавязаліся зрабіць сёлетні год годам ленінскай ударнай працы, выдатнай якасці прадукцыі, а калектыў тэатра лічыць сваёй галоўнай задачай стварэнне спектакляў на высокім ідэйным і мастацкім узроўні; паставіць да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна спектакль на гісторыка-рэвалюцыйную тэму, праводзіць у цэхах камбіната творчыя справаздачы акцёраў аб сваёй рабоце, арганізоўваць для калектываў мастацкай самадзейнасці Палаца культуры камбіната кансультацыі рэжысёраў, мастакоў і майстроў сцэны; паказваць у Палацы культуры свае новыя работы, запрашаць удзельнікаў мастацкай самадзейнасці і перадавых рабочых на рэпетыцыі, прэм'еры і інш.

17 красавіка адбылася першая сустрэча калектыву з акцёрамі Рускага тэатра. Гасцей цёпла вітала дырэктар камбіната М. Конанава. Пасля майстры сцэны пабывалі ў цэхах камбіната, пазнаёміліся з лепшымі працаўніцамі.

У заключэнне сустрэчы акцёры тэатра паказалі ўрыўкі са сваіх спектакляў «Шчыт і меч», «Далёкія вокны» і «Узнятая цаліна».

У сустрэчы прынялі ўдзел народныя артысты рэспублікі Г. Абуховіч і Я. Палосін, заслужаныя артысты БССР К. Верамейчык і М. Кузьменка, артысты З. Асмолава, В. Клебановіч, В. Краўчанка, В. Мароз, Ю. Сцяпанаў, В. Шур.

## НА СЕМІНАРАХ РАБОТНІКАЎ КУЛЬТУРЫ

Шырокая гаворка пра тое, як клубныя ўстановы і бібліятэкі рыхтуюцца да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна, ішла на семінары культасветработнікаў Пінскага раёна. Даклад «Методыка і практыка правядзення вечароў, прысвечаных У. І. Леніну», зрабіў дырэктар Пінскага гарадскога Дома культуры І. Сакольскі.

Удзельнікі семінара прынялі ўдзел у тэматычным вечары «Камуністы, наперад!». А пасля ля вогнішча яны слухалі ўдзельнікаў грамадзянскай вайны І. Крыленку, І. Вакульчыка, В. Межунова, спявалі песні тых гераічных часоў.

Ф. МАРЦІНКОЎСКАЯ.

Больш як 80 культасветработнікаў Пастаўскага раёна прынялі ўдзел у трохдзённым семінары. Метадысты Віцебскага абласнога Дома народнай творчасці Б. Скуловіч, В. Воранава, Н. Лядэнка, дырэктар музычнай школы А. Бычкоўскі прачыталі даклады і правялі практычныя заняткі. Ішла гаворка, як падрыхтаваць канцэрт агітбрыгады ў час веснавых палявых работ, скарыстоўваючы ў ім мясцовыя матэрыялы, якой павінна быць наглядная агітацыя ў клубе і бібліятэцы да 100-гадавога ленінскага юбілею і 25-годдзя з дня вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў, як правесці свята вясны, падрыхтаваць літаратурна-музычную кампазіцыю «Вобраз Леніна ў літаратуры і мастацтве». Рэжысёр народнага тэатра В. Стахоўскі падзяліўся думкамі, як рыхтавацца да святочнага канцэрта, прысвечанага 100-годдзю з дня нараджэння вялікага правадыра.

На семінары працавалі клубная і бібліятэчная секцыі. Культармейцы прынялі ўдзел у тэматычным вечары «Вялікі, блізкі, родны».

М. СКРЫДЛЕЎСКАЯ,
інспектар Пастаўскага раённага аддзела культуры.

Марк СМАГАРОВІЧ

## НАД КАРТАЙ РАСІІ

Упэўненасць давала сілу...
Ільіч спыніўся ля стала.
Уся лапцюжная Расія
На карце перад ім была.

Ён верыў, што мінуць нягоды
І што свабодны чалавек
Узніме новыя заводы,
Пакорыць плынь магутных рэк.

Пагасне дымная лучына,
Камбайны выйдуць на палі...
Ля воч праменьчыкі маршчынак
Ад светлых дум і мар ляглі.

Праз цяжкасці і праз нястачы
У кабінетнай цішыні
Расію ён такою бачыў,
Якою стала ў нашы дні.

Яўген КРУПЕНЬКА

## У РАННІ ЧАС

Дакладна лічыць час і б'е гадзіннік.
І слухае Эпоха смелы бой.
І я стаю над велічнай Нявой,
Перад вачыма — ты, мая Радзіма!

Ад сонечнай расінкі да нязгасных
Над вежамі Крамля агністых зор,
Ад беларускіх вольных ніў калгасных
І да Паміра — найвышэйшых гор.

Ад шалаша на беразе Разліва
І да палацаў, у якіх жывём,
Ад Днепрабуда зорак зіхатлівых
Да Брацкай ГЭС — усюды родны дом.

...Я над Нявой у ціхі ранні час
Жывыя чую крокі Ільіча.

# ЗАКЛІКІ ЦК КПСС да 1 Мая 1969 года

1. Няхай жыве 1 Мая — дзень міжнароднай салідарнасці працоўных у барацьбе супраць імперыялізму, за мір, дэмакратыю і сацыялізм!

2. Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

3. Няхай жыве марксізм-ленінізм — вечна жывое інтэрнацыянальнае вучэнне, пуцяводная зорка працоўных усіх краін у барацьбе за перамогу сацыялізма і камунізма!

4. Няхай жыве ў стагоддзях імя геніяльнага прадаўжальніка рэвалюцыйнага вучэння Маркса і Энгельса, заснавальніка камуністычнай партыі, кіраўніка першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы рабочых і сялян — Уладзіміра Ільіча Леніна!

5. Слава вялікаму савецкаму народу — доблеснаму будаўніку камунізма, мужнаму барацьбіту за свабоду, мір і шчасце працоўных!

6. Няхай жыве гераічны рабочы клас Краіны Саветаў — перадавая і вядучая стваральная сіла ў барацьбе за пабудову камунізма ў СССР!

7. Няхай жыве гераічнае калгаснае сялянства — актыўны будаўнік камунізма!

8. Няхай мацнее і працвітае саюз рабочага класа і калгаснага сялянства — непарушная аснова савецкай сацыялістычнай дзяржавы!

9. Няхай жыве савецкая народная інтэлігенцыя — актыўны ўдзельнік будаўніцтва камуністычнага грамадства!

10. Няхай вечна жыве і працвітае брацкая дружба і непарушнае адзінства народаў СССР!

11. Няхай жыве Камуністычная партыя Савецкага Саюза, якая ўпэўнена вядзе савецкі народ па ленінскаму шляху да перамогі камунізма!

12. Працоўныя Савецкага Саюза! Цясней згуртоўвайцеся пад ленінскім сцягам Камуністычнай партыі!

Няхай жыве вялікае і непарушнае яднанне партыі і народа!

13. Няхай жывуць Саветы дэпутатаў працоўных — сапраўды народныя органы ўлады!

Няхай развіваецца і мацнее савецкая сацыялістычная дэмакратыя, расце актыўнасць працоўных у кіраванні справамі краіны!

14. Няхай жывуць савецкія прафсаюзы — школа кіравання і гаспадарання, школа камунізма!

15. Няхай жывуць савецкія жанчыны — актыўныя будаўнікі камуністычнага грамадства!

16. Няхай жыве Ленінскі камсамол — верны памочнік і рэзерв Камуністычнай партыі, перадавы атрад маладых будаўнікоў камунізма!

17. Савецкія воіны! Дабівайцеся новых поспехаў у баявой і палітычнай падрыхтоўцы, будзьце пільнымі і заўсёды гатовымі адбіць любую агрэсію імперыялістаў!

Няхай жывуць гераічныя Узброеныя Сілы Савецкага Саюза!

18. Слава доблесным савецкім пагранічнікам, якія мужна ахоўваюць свяшчэнныя рубяжы нашай Радзімы!

19. Працоўныя Савецкага Саюза! Вышэй палітычную пільнасць! На падкопы ворагаў сацыялізма і міру адкажам умацаваннем згуртаванасці, дысцыпліны і арганізаванасці!

20. Працоўныя Савецкага Саюза! Вышэй сцяг сацыялістычнага спаборніцтва за датэрміновае выкананне пяцігодкі, за дастойную сустрэчу стагоддзя з дня нараджэння Леніна!

21. Слава ўдарнікам і калектывам камуністычнай працы!

Слава перадавікам і наватарам вытворчасці!

22. Працоўныя Савецкага Саюза! Змагайцеся за хутчэйшае ўкараненне ў вытворчасць дасягненняў навукі і тэхнікі! Настойліва авалодвайце сучаснымі навукова-тэхнічнымі ведамі!

23. Рабочыя і работніцы, інжынеры і тэхнікі! Усямерна павышайце эфектыўнасць вытворчасці! Змагайцеся за лепшае выкарыстанне вытворчых фондаў, сыравіны і матэрыялаў, за скарачэнне тэрмінаў асваення праектных магутнасцей!

24. Працоўныя Савецкага Саюза! Няўхільна павышайце прадукцыйнасць працы — самае важнае, самае галоўнае для перамогі камунізма! Змагайцеся за поўнае выкарыстанне кожнай рабочай мінуты!

25. Работнікі народнай гаспадаркі! Настойліва павышайце тэхнічны ўзровень вытворчасці! Ажыццяўляйце комплексную механізацыю і аўтаматызацыю! Усямерна паляпшайце якасць прадукцыі, дабівайцеся зніжэння яе сабекошту!

26. Працоўныя Савецкага Саюза! Змагайцеся за камуністычныя адносіны да працы і грамадскай уласнасці, за эканомію і ашчаднасць!

27. Калгаснікі, работнікі саўгасаў, спецыялісты сельскай гаспадаркі! Змагайцеся за паспяховае выкананне заданняў пяцігодкі! Павышайце прадукцыйнасць працы, зніжайце сабекошт прадукцыі земляробства і жывёлагадоўлі!

28. Працаўнікі сельскай гаспадаркі! Змагайцеся за высокую якасць веснавых палявых работ, усямерна павялічвайце вытворчасць збожжа, мяса, малака і іншых сельскагаспадарчых прадуктаў!

29. Работнікі сельскай і воднай гаспадаркі! Больш актыўна ажыццяўляйце праграму меліярацыі зямель, хімізацыі і комплекснай механізацыі сельскай гаспадаркі!

30. Рабочыя і калгаснікі, спецыялісты прамысловасці і сельскай гаспадаркі! Павышайце культуру вытворчасці, шырэй укараняйце навуковую арганізацыю працы і перадавы вопыт!

31. Савецкія вучоныя, канструктары, інжынеры і тэхнікі! Актыўна змагайцеся за паскарэнне тэмпаў навукова-тэхнічнага прагрэсу!

32. Работнікі гандлю і бытавога абслугоўвання! Усямерна павышайце культуру абслугоўвання насельніцтва, паўней і лепш задавальняйце запатрабаванні савецкіх людзей!

33. Дзеячы літаратуры і мастацтва, работнікі культуры! Высока нясіце сцяг партыйнасці, народнасці, ідэйнасці савецкага мастацтва, удасканальвайце сваё мастацкае майстэрства, аддавайце ўсе сілы і здольнасці палітычнаму, маральнаму, эстэтычнаму выхаванню будаўнікоў камунізма!

34. Работнікі асветы! Усямерна ўдасканальвайце народную асвету! Больш актыўна ўдзельнічайце ў камуністычным выхаванні працоўных!

35. Работнікі аховы здароўя і фізічнай культуры! Удасканальвайце медыцынскае абслугоўванне насельніцтва! Развівайце масавы фізкультурны рух у краіне!

36 Камуністы! Будзьце ўмелымі выхавацелямі і арганізатарамі мас у барацьбе за ажыццяўленне рашэнняў XXIII з'езда КПСС, за датэрміновае выкананне пяцігадовага плана!

37. Юнакі і дзяўчаты! Настойліва авалодвайце марксісцка-ленінскай тэорыяй, вышынямі навукі і тэхнікі! Будзьце вернымі рэвалюцыйным ідэалам, актыўнымі ўдзельнікамі будаўніцтва камунізма!

38. Піянеры і школьнікі! Горача любіце савецкую Радзіму, добра вучыцеся, паважайце працу! Рыхтуйцеся стаць актыўнымі барацьбітамі за справу Леніна, за камунізм!

39. Брацкае прывітанне камуністычным і рабочым партыям — баявому марксісцка-ленінскаму авангарду рабочага класа і ўсіх працоўных, стойкім барацьбітам супраць імперыялізму, за ўстапяванне на зямлі светлай мары чалавецтва — камунізма!

40. Няхай мацнее адзінства і згуртаванасць камуністаў усяго свету на аснове марксізма-ленінізма, пралетарскага інтэрнацыяналізму!

41. Няхай жыве адзінства і згуртаванасць усіх прагрэсіўных сіл у барацьбе супраць імперыялістычнай палітыкі агрэсіі, насілля і вайны!

42. Брацкае прывітанне народам сацыялістычных краін! Няхай развіваецца і мацнее сусветная сацыялістычная сістэма — трыумф вялікай справы Кастрычніка, гістарычная заваёва міжнароднага рабочага класа!

43. Працоўныя сацыялістычных краін! Змагайцеся за ўмацаванне дружбы і адзінства, за далейшае развіццё брацкіх адносін паміж сацыялістычнымі дзяржавамі! Будзьце пільнымі да падкопаў ворагаў сацыялізма!

Вышэй сцяг пралетарскага інтэрнацыяналізму!

44. Брацкае прывітанне рабочаму класу капіталістычных краін, які самааддана змагаецца супраць манапалістычнага капіталу, за палітычныя і сацыяльна-эканамічныя правы працоўных, за трыумф сацыялістычных ідэалаў!

45. Няхай жыве і мацнее саюз сіл сацыялізма і нацыянальна-вызваленчага руху — залог поспеху ў барацьбе народаў супраць імперыялізму, за нацыянальную незалежнасць, свабоду, дэмакратыю і сацыялізм!

46. Гарачае прывітанне народам маладых нацыянальных дзяржаў, якія змагаюца супраць імперыялізму, за ўмацаванне незалежнасці, за прагрэсіўны шлях сацыяльнага развіцця!

47. Гарачае прывітанне народам каланіяльных і залежных краін, якія змагаюцца супраць імперыялізму і расізму, за сваю свабоду і нацыянальную незалежнасць!

48. Брацкае прывітанне пакутуючым у турмах і фашысцкіх засценках мужным барацьбітам супраць капіталістычнага і каланіяльнага рабства, за свабоду народаў, за сацыялізм!

49. Брацкае прывітанне мужнаму в'етнамскаму народу, які вядзе гераічную барацьбу супраць агрэсіі амерыканскага імперыялізму, за свабоду і незалежнасць сваёй радзімы!

50. Народы свету! Рашуча патрабуйце ад ЗША неадкладнага спынення агрэсіўнай вайны супраць свабодалюбівага в'етнамскага народа!

Вон амерыканскіх імперыялістаў з В'етнама!

51. Народы краін Еўропы! Народы свету! Змагайцеся супраць рэваншызму і неафашызму ў ФРГ, супраць допуску да ядзернай зброі заходнегерманскіх мілітарыстаў, якія нясуць пагрозу агульнаеўрапейскай бяспецы і міру!

52. Народы краін Еўропы! Больш актыўна змагайцеся за ўмацаванне еўрапейскай бяспекі, за развіццё паміж народамі Еўропы адносін супрацоўніцтва і добрасуседства!

53. Няхай мацнее і развіваецца салідарнасць савецкага народа з народамі арабскіх краін, якія змагаюцца супраць замахаў імперыялізму, за вывад войск ізраільскіх агрэсараў з акупіраваных арабскіх тэрыторый!

54. Няхай жыве ленінская знешняя палітыка Савецкага Саюза — палітыка міру і дружбы народаў, згуртавання ўсіх антыімперыялістычных міралюбівых сіл у барацьбе супраць рэакцыі і вайны!

55. Няхай жыве Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік — цвярдыня дружбы і шчасця народаў нашай краіны, надзейная апора міру і прагрэсу!

56. Пад сцягам марксізма-ленінізма, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі — наперад да новых перамог у барацьбе за перамогу камунізма ў нашай краіне!

57. Няхай жыве камунізм — светлая будучыня чалавецтва!

ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ
КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА.

# СЛАВІМ ІМЯ ІЛЬІЧА

М. ШМАТКОЎ,
намеснік начальніка Упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкома

«ПРЫХОДЗЬЦЕ, калі ласка, у клуб — падумаць, пагаварыць, параіцца з Ільічом», — заклікала афіша. Вечар называўся незвычайна: «Ленін, час і я».

Ленін, час і я... Якая вялікая, усеабдымная тэма, які прастор для ўспамінаў і роздуму, мар і планаў... Жадаючых выказацца было вельмі многа.

Чуйная, напружаная, бы струна, цішыня панавала ў перапоўненай зале, калі выступалі камсамольцы 20-х—30-х гадоў Іван Лапушынскі, Арсен Каштальянц, Веньямін Глушын. Яны гаварылі аб тым, як даводзілася засвойваць ім ленінскую навуку, як змагаліся за здзяйсненне запаветаў Ільіча ў тыя, ужо далёкія гады, і ў вачах моладзі характары ветэранаў нібы паварочваліся новымі гранямі. Потым выступілі маладыя калгаснікі сельгасарцелі «Буравеснік» Уладзімір Бузікаў, Вячаслаў Кушнер. Яны павялі шчырую размову-споведзь аб сабе, аб сваім разуменні месца ў жыцці. Ад імя моладзі калгаса яны пакляліся на вернасць вялікай справе Леніна.

Глыбокі след у сэрцах хлебаробаў пакінуў гэты тэматычны вечар.

Цікавую, змястоўную і разнастайную работу па прапагандзе ленінскай спадчыны вядуць многія культасветустановы Віцебшчыны.

У гэтыя дні асабліва актыўна дзейнічаюць клубныя ўстановы ў калгасах, якія носяць імя правадыра. Якаўлевіцкі сельскі Дом культуры Аршанскага раёна з дапамогай партыйнай арганізацыі сельгасарцелі імя Леніна правёў тэматычны вечар: «З гонарам носім імя правадыра». Адзін з арганізатараў калгаса І. Лосеў, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Н. Колбін, старшыня арцелі А. Каровін расказалі аб мінулым, сучасным і будучым гаспадаркі. Такія ж вечары правялі сельскія клубы калгасаў імя Ільіча Бешанковіцкага, імя Леніна Верхнядзвінскага раёнаў.

Разнастайныя формы і метады масавай работы выкарыстоўваюць культасветустановы вобласці для прапаганды ленінскай спадчыны. У Лёзненскім раённым Доме культуры, напрыклад, пачала працаваць «Ленінская народная трыбуна». Адкрыў яе першы сакратар райкома партыі, кавалер ордэна Леніна Уладзімір Лявонцьевіч Качан.

Усхвалявана выступала настаўніца Ганна Чарткова, узнагароджаная за шматгадовую працу ордэнам Леніна, удзельнік Айчыннай вайны, старшыня калгаса імя Леніна Міхаіл Бакоўскі, камсамолка Галіна Філіпцова, стары член КПСС Іван Кісялёў. Потым удзельнікі вечара праслухалі прамову Ільіча «Што такое Савецкая ўлада?», запісаную на грампласцінку. Затым прагледзелі кінафільм «Ленін у Польшчы», пазнаёміліся з фотавыстаўкай і альбомамі аб жыцці і дзейнасці Леніна. Такіх вечароў прайшло ўжо некалькі.

Сярод жыхароў Бешанковіч вялікай папулярнасцю карыстаюцца тэматычныя вечары, прысвечаныя відным дзеячам нашай партыі, верным паплечнікам Ільіча. Надоўга запомніцца наведвальнікам раённага Дома культуры тэматычны вечар «Жыццё яркае, як полымя» аб Я. М. Свярдлове, «Пралетарскі палкаводзец» — аб М. В. Фрунзе, «Першы нарком асветы» — аб А. В. Луначарскім. Жыццё гэтых выдатных людзей нікога не пакінула раўнадушным. Для юнакоў і дзяўчат гэта былі жывыя прыклады — з каго рабіць жыццё, на каго раўняцца.

У многіх клубах і бібліятэках вобласці ідуць ленінскія чытанні. Асабліва людна бывае на такіх чытаннях у клубе саўгаса «1-е Мая» Дубровенскага раёна. Ён стаў любімым месцам адпачынку. Тут праслухалі ўжо лекцыі «Ленін аб кіруючай ролі Камуністычнай партыі», «Ленін і моладзь». Адбылася канферэнцыя чытачоў па працы Леніна «Вялікі пачын».

Цікавую і змястоўную работу па прапагандзе ленінскай спадчыны праводзіць Віцебская абласная бібліятэка. На яе паліцах больш трох тысяч кніг Леніна, каля дзвюх тысяч тамоў літаратуры аб ім. На выстаўцы «Імя Леніна — сімвал новага свету» — змешчана больш як дзвесце твораў правадыра. Вялікай папулярнасцю сярод чытачоў карыстаецца кніжная выстаўка: «Вобраз Леніна ў выяўленчым мастацтве». Зараз, як ніколі, узрос попыт на ленінскія працы. Іх чытаюць студэнты і рабочыя, калгаснікі і інтэлігенты.

У бібліятэцы сістэматычна чытаюцца лекцыі аб У. І. Леніне, праводзяцца лекцыі-канцэрты «Ільіч слухае музыку». Надоўга запомніцца наведвальнікам тэматычны вечар «Ленін і музыка». Арганізаваць яго дапамаглі педагогі і студэнты Віцебскага музычнага вучылішча.

Разнастайныя формы масавай работы выкарыстоўваюць супрацоўнікі гэтай бібліятэкі, шырока абапіраюцца яны на актыў. Добра дапамагаюць бібліятэкарам настаўнікі горада. З іх удзелам была падрыхтавана канферэнцыя чытачоў «Настаўнік роўны салдату, герою», дзе размова ішла аб ролі настаўніка ў выхаванні моладзі, аб тым, як высока цаніў Ленін іх працу.

Па планах бібліятэкі ўлетку адбудуцца ленінскія ўрокі, сустрэчы са старымі камуністамі, якія бачылі Ільіча. Запланавана навукова-практычная канферэнцыя «Ленін аб бібліятэчнай справе». На канферэнцыю прыедуць бібліятэкары з гарадоў і раёнаў вобласці.

Заўсёды людна ў Бычыханскай сельскай бібліятэцы Гарадоцкага раёна. Асабліва спадабалася чытачам цікавая канферэнцыя «Крочыць Ленін па планеце». Часта праводзяцца тут бібліятэчныя агляды, вусныя часопісы па кнігах аб вялікім правадыры і яго паплечніках. Завадатарамі ўсёй работы з'яўляюцца дырэктар сельскага Дома культуры Вера Тарасенка і загадчыца бібліятэкі Анастасія Ягоранка.

Клубная ленініяна... Гэта не толькі незабыўныя вечары і цікавыя лекцыі, вусныя часопісы і кніжныя выстаўкі. Гэта вясенні разліў самадзейнага мастацтва. Са сцэн клубаў гучаць песні аб правадыры, яго светлы вобраз увасабляецца ў спектаклях. Леніну прысвячаюцца вечары паэзіі, конкурсы чытальнікаў і спевакоў. Усе культасветустановы падрыхтавалі да 99-й гадавіны вялікія канцэртныя праграмы.

У першыя гады Савецкай улады Ільіч выступіў ініцыятарам стварэння самых масавых асяродкаў культуры — хат-чытальняў. Сучасныя сельскія клубы — пераемнікі традыцый хат-чытальняў — знаходзяцца на перадавым фронце ідэйнага выхавання людзей, барацьбы за пабудову камунізма.

Прапаганду ленінскай спадчыны культасветработнікі спалучаюць з услаўленнем людзей працы, з яркім паказам нашых заваёў у мірных стваральных буднях. Усімі формамі масавай работы клубы і бібліятэкі імкнуцца дапамагчы хлебаробам па-ўдарнаму працаваць у 1969 годзе, годзе ленінскай вахты.

 

